**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 46 (814) 12 лістапада 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by




Апошнія дні залатой восені.
Фота tut.by



Падача абвестак па тэлефоне № 166



## МНС інфармуе
**на 10.11.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 736;
Гібель людзей – 76, з іх 3 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 29;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 591,1 млн. руб.



ISSN 2077-8023



Верхнядзвінскі раён

# Пра свіней лепш забыцца

■ Станіслаў Раманчук.

**Услед за іншымі краінамі свету яшчэ пазалетась і беларусы сутыкнуліся з праявамі ўспышак і распаўсюджвання класічнай чумы свіней.**

Як вядома, у далейшым іх пагалоўе ў Беларусі скарацілася амаль на 20 %, летась экспартныя пастаўкі айчыннай свініны зменшыліся ў 6 разоў, яшчэ больш праблема АЧС закранула Віцебшчыну і асабліва прысядзібныя панадворкі насельніцтва. Не пашчасціла і жыхарам аграгарадка Шайцерава, што ў Верхнядзвінскім раёне, бо ў мясцовай гаспадарцы ёсць свой свінакомплекс, пагалоўе пятачкоў прыйшлося пусціць пад нож. Для людзей і тут – гэта была сапраўдная жыццёвая драма, бо яны пазбаўляліся звыклага ўкладу жыцця, дадатковых даходаў і проста прывыклі мець уласнае сала, рабіць "пальцам пханыя" смачныя каўбасы і іншыя мясныя прысмакі. З цягам часу сітуацыя з чумой быццам супакоілася, а беларускі ўрад вырашыў аднавіць пагалоўе свіней да ўзроўню 2013 года і зменшыць зоны для насельніцтва з забаронай трымаць свіней на панадворках. З надзеяй мясцовыя жыхары спадзяваліся аднавіць свінагадоўлю, калі свінакоплекс у ААТ "Шайцерава" зноў запрацаваў, аднавіў большую частку пагалоўя. Аднак на месцы насельніцтву такі дазвол не давалі, і людзі калектыўна патэлефанавалі на "гарачы тэлефон" абласной газеты "Віцебскія весткі". На жаль, галоўны ветурач аблсельгасхарча Аляксандр Казак адказаў, што іх населены пункт уваходзіць у лік 19 па Віцебскай вобласці, размешчаных паблізу свінакомплексаў, дзе трымаць свіней будзе і надалей забаронена. Новыя ўспышкі віруса свіной чумы сёлета фіксаваліся ў фермераў Літвы, на прасторах Расіі і лепш за ўсё будзе людзям гадаваць бычкоў, авечак альбо розную дамашнюю птушку.

Пастаўскі раён

# Запатрабаваны жыццём

■ Кастусь Александровіч

**У навучальных устаноў, як і ў людзей, бываюць розныя перыяды свайго развіцця і росквіту.**

Вельмі слаўны шлях за шэсць дзесяцігоддзяў прайшоў ад пасляваеннага рамеснага вучылішча да рэгіянальнай сярэдне-спецыяльнай установы (тэхнікума) Пастаўскі дзяржаўны каледж. Аб гэтым гаварылася падчас юбілейных урачыстасцяў у раённым Палацы культуры, дзе авацыяй зала сустрэла вестку аб тым, што з новага года ён пачне рыхтаваць патрэбныя кадры спецыялістаў для заходніх рэгіёнаў Віцебскай і Мінскай абласцей. Для гэтага тут створана і пастаянна абнаўляецца матэрыяльна-тэхнічная база, пабудаваны і адрамантаваны студэнцкі інтэрнат. У адрозненне ад іншых ССНУ, у Паставах няма праблем з наборам навучэнцаў, існуе нават конкурс, асабліва пасля таго, як тут пачалі рыхтаваць аўтамеханікаў і вадзіцеляў-дальнабойшчыкаў для міжнародных перавозак. За гады сваёй дзейнасці мясцовы каледж падрыхтаваў і выхаваў больш 20 тысяч работнікаў масавых прафесій, у большасці сваёй дастойных людзей. Адзін з самых вядомых выпускнікоў 1962 года былы старшыня калгаса імя Суворава, Герой Сацыялістычнай Працы Алег Валадзько прыслаў кранальнае віншаванне сваім былым педагогам. Дарэчы, па паспяховасці цяпер навучэнцы каледжа лепшыя ў вобласці, штогод кожны трэці выпускнік паступае далей вучыцца ў вядучыя ВНУ Беларусі. Каманды каледжа па валейболу і міні-футболу – чэмпіёны вобласці і прызёры ў краіне, тут ёсць свой высокапрафесійны духавы аркестр і ўласная тэлестудыя, і таму калектыў каледжа будзе развівацца далей.

Полацкі раён

# Узвышанае і зямное

■ Чэслаў Якубовіч.

**У напоўненых штодзённай мітуснёй жыццёвых буднях так важна кожнаму чалавеку бывае адпачыць душой, адкрыць для сябе нешта новае.**

У значнай ступені спрыяе гэтаму Міжнародны фестываль арганнай музыкі "Званы Сафіі", які штогод збірае выдатных музыкантаў з розных краін свету ў Полацкім раёне. Нягледзячы на позную восень, у канцэртнай зале і сёлета на юбілейным XX фестывалі не было свабодных месцаў. На гэты раз у горад над Дзвіной з радасцю пагадзіліся прыехаць знакамітыя музыкі, нават прафесары і кампазітары з Даніі, Францыі, Аўстрыі, Італіі, Швейцарыі і Расіі. Як заўсёды, сярод іх на першым з цыклу канцэртаў з праграмай для аргана, скрыпкі і трубы віртуозна выступіла мясцовая арганістка Ксенія Пагарэлая. Напярэдадні яна выканала сваю запаветную мару і дала сольны канцэрт у самым вядомым храме свету саборы Нотр-Дам у Парыжы, дзе дагэтуль выдатна гучыць арган, створаны яшчэ ў 1402 годзе. Ксенія ў французскай сталіцы выступіла першай сярод беларускіх музыкантаў, бо сюды існуе вельмі строгі адбор, а рыхтавалася да выступлення нават 4 гады, рыхтавала некалькі праграм, адну з якіх адабралі. У сябе на радзіме яна штогод дае да трохсот канцэртаў, але на гэты раз мясцовы арган, пабудаваны ў Чэхіі зімой 1985 года, гучаў асабліва ўзнёсла і прыгожа. Дарэчы, гэту вядомую арганістку добра ведаюць і ў Паставах, бо там таксама стаў праваздзіца музычны фестываль "Гучаць старадаўнія арганы". Фестываль на Пастаўшчыне стаў сёлета своеасаблівай уверцюрай "Званоў Сафіі" і акрамя канцэртаў класічнай і духоўнай музыкі ў райцэнтры паслухаць лаўрэатаў міжнародных конкурсаў змаглі і ў касцёлах св. Іаана Хрысціцеля ў Камаях і св. Тадэвуша ў Лучаі.

# Аб самым надзённым

## КРАІНА НЕБАГАТЫХ "МІЛЬЯНЕРАЎ" ДАЧАКАЛАСЯ ЧАРГОВАЙ ЗАМЕНЫ ГРАШОВЫХ КУПЮР




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Па меркаванню экспертаў, такім рашэннем улады Беларусі далі ўсім зразумець, што яны ўпэўненыя: перыяд высокай штогадовай інфляцыі пройдзены, і ў бліжэйшай перспектыве наш беларускі рубль не абясцэніцца.**

Апошнім часам у сферы грашова-крэдытных адносін беларусаў чакалі розныя, часцей непрыемныя, сюрпрызы. Многія людзі старэйшага пакалення, нават далёкія ад ведання эканамічных адносін, па сваім кашальку адчувалі, як рэзка змяншаліся іх зберажэнні пасля вымушаных дэвальвацый нацвалюты. Аднак, нават для дасведчаных спецыялістаў стаў сюрпрызам надпісаны А. Лукашэнкам нядаўні Указ аб правядзенні ўжо дэнамінацыі беларускіх банкнот, на якіх знікнуць неўзабаве адразу чатыры нулі. У наш паўсядзённы абыход пасля перапынку ў чвэрць стагоддзя зноў з'явяцца манеты вартасцю 1, 2, 5, 10, 20 і 50 капеек , а таксама больш важкія па 1 і 2 рублі.

Гэты дакумент з'явіўся ў друку, што характэрна, непасрэдна перад прайшоўшай цырымоніяй заступлення на пасаду зноў пераабранага беларускага лідара. Яна адбылася ўпершыню ў Палацы Незалежнасці ў прысутнасці больш тысячы запрошаных уплывовых асоб, дыпламатаў і замежных гасцей. Калі разабрацца, гэта быў патрэбны і, нават, неабходны крок, бо старыя грошы настолькі абясцэніліся, што за сторублёўку практычна нічога нельга было купіць. Насіць "мільёны" ў кішэні і разлічвацца імі было нязручна, не кажучы ўжо пра бедных фінансістаў і бухгалтараў з сучаснымі калькулятарамі, якія вялі падлікі ўжо мільярдамі і трыльёнамі.

Новыя ж нацыянальныя грашовыя банкноты, асабліва вартасцю 5 рублёў і манеты па 2 рублі, атрымаліся прыгожыя і вельмі падобныя на грошы ЕС. Па меркаванню экспертаў, такім рашэннем улады Беларусі далі ўсім зразумець, што яны ўпэўненыя: перыяд высокай штогадовай інфляцыі пройдзены, і ў бліжэйшай перспектыве наш беларускі рубль не абясцэніцца. А на саміх новых грошах мы з цягам часу будзем штодзень бачыць подпіс тагачаснага галоўнага банкіра і Героя Беларусі Пятра Пракаповіча, а таксама выявы архітэктурных славутасцяў усіх абласцей краіны.

Між тым, у навейшай айчыннай гісторыі гэта ўжо трэцяя па ліку працэдура замены беларускіх грошай. Дагэтуль лішнія нулі з купюр прыбіралі летам 1994 года і ў пачатку новага стагоддзя, на рубяжы 2000 гадоў. Як вядома, новыя грошы ўбачаць беларусы ў абарачэнні з 1 ліпеня 2016 года, а яшчэ паўгода будуць паралельна ў разліках хадзіць і старыя грошы ўзору 2000 года без абмежаванняў і камісійных збораў. Многія суайчыннікі дагэтуль прывыклі называць нашы рублікі ласкава "зайчыкамі", бо на купюрах вартасцю 1 рубель з'явілася купюра з вывявай менавіта гэтага звярка.

Падрыхтоўка да чарговай грашовай рэформы ў нашай краіне вялася даўно, а самі новыя грашовыя купюры вырабілі разам з манетамі яшчэ ў 2008 годзе. Аднак, неспрыяльная эканамічная сітуацыя, высокі рост цэн не дазвалялі дагэтуль правесці наспеўшую дэнамінацыю. Зараз у насельніцтва падстаў для трывогі, сапраўды, няма, бо мы не збяднеем, як і не пабагацеем. Такія меры з'яўляюцца, па-сутнасці, толькі тэхнічнай працэдурай, ніяк не адаб'юцца на ўзроўні жыцця беларусаў, супакойвае ўсіх самы аўтарытэтны незалежны фінансавы аналітык Вадзім Іасуб. Дарэчы, чаканка манет справа даволі дарагая, чым друкаванне папяровых грошай, а раз дзяржава на гэта пайшла, то галоўны рэгулятар на рынку Нацбанк Беларусі трымае цвёрда кантроль за сітуацыяй.

Аб магчымасці ўвядзення новых грошай галоўныя банкіры краіны і сам А. Лукашэнка гаварылі і раней, але папярэджвалі, што гэта тэхнічная працэдура гатова, новая валюта ляжыць на складах, вось толькі трэба дачакацца падыходзячага моманту. І вось, нібыта, такі момант настаў, альбо ўжо немагчыма было адкладваць далей гэту наспеўшую працэдуру. Для нас усіх цяпер застаецца адно галоўнае пытанне, што будзе ў далейшым з цэнамі? Старыя людзі памятаюць, як замяняліся савецкія грошы падчас сталінскай і хрушчоўскай дэнамінацый, як мяняліся тэрмінова 25-рублёўкі пры апошнім савецкім прэм'еры Паўлаве. У мінулым не абыходзілася без пэўнага падаражэння тавараў і прадуктаў, але ж тады назіраўся таварны дэфіцыт, многае даставалася па блату і па знаёмству.

У наш час іншая абстаноўка, а будучым летам ва ўсіх крамах, на рынках, у інтэрнэт-магазінах цэны будуць указвацца ў двух варыянтах паўгода, каб людзі прывыклі. З іншага боку, цэны ў нас і так зашкальваюць па многіх таварах на сусветным і вышэй узроўні, куды ім болей расці. Пакуль жа атрымоўваецца, што як маладым, так і старым людзям лічыць новыя грошы стане значна прасцей. Пры гэтым відавочна, што падатак на дармаедства для некаторых беларусаў у новым вылічэнні стане 360 рублёў, але ж паспрабуй недзе зарабі за месяц у глыбінцы такую суму.

Новая дэнамінацыя засмуціла і тых беларусаў, прыхільнікаў інтэграцыі з Расіяй, якія спадзяваліся на хутчэйшае ўвядзенне ў абарачэнне агульнай валюты расійскага рубля ці нейкага новага алтына. Цяпер жа падобная перспектыва адкладваецца на нявызначаны тэрмін, а можа і зусім назаўсёды…

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 12.11.15 | | | | Пятніца 13.11.15 | | | | Субота 14.11.15 | | | | Нядзеля 15.11.15 | | | | Пан. 16.11. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +3 | +3 | +8 | +7 | +4 | +5 | +7 | +5 | +5 | +5 | +7 | +3 | +3 | +3 | +6 | +3 | +2 | 0 | +4 |
| Ціск | 745 | 745 | 740 | 737 | 746 | 750 | 751 | 751 | 748 | 743 | 737 | 736 | 736 | 735 | 735 | 737 | 739 | 742 | 742 |
| Вецер м/сек | 4 З | 2 Ю-З | 2 Ю-В | 7 З | 5 С | 4 З | 4 С-З | 3 Ю | 5 Ю | 4 Ю | 0 ШТЛ | 4 С-З | 6 С-З | 4 С-З | 6 С-З | 5 С-З | 4 С-З | 3 С | 1 С |
| Вільготнасць | 92 | 95 | 94 | 91 | 91 | 95 | 84 | 95 | 92 | 96 | 94 | 95 | 92 | 93 | 84 | 89 | 91 | 94 | 91 |

## Дзень за днём

**Айчынная эканоміка восенню паскорыла падзенне да 3,7% ВУП. Ужо 80% прадпрыемстваў краіны апынуліся на мяжы выжывання, не маюць уласных абаротных сродкаў. Па ўсіх накірунках развіцця найгорш сітуацыя стала ў сталіцы, шмат буйных заводаў у цяжкім становішчы. Урад Беларусі распрацаваў праграму асцярожных структурных рэформ з далейшай лібералізацыяй цэн. Банку развіцця перадалі для кіравання актывы 9 прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі. Нават у Мінску ў 2 разы скарацілі аб'ёмы будаўніцтва жылля. У Беларусі ўзмоцняць барацьбу з курэннем, зараз кураць 46% мужчын і ўжо 9,3% жанчын.**

# Важнейшыя навіны свету

**Саудаўская Аравія.** Камерцыйныя запасы нафты краіны дасягнулі максімума, да нафтавай экспансіі прыступае Іран, што прывядзе да новага зніжэння сусветных цэн на нафту.

**Англія.** Падчас візіту старшыні КНР Сі Цзіньпіна дамовіліся, што кітайскія фірмы інвестуюць 9 млрд. USD у энергетыку краіны і пабудуюць тут атамную станцыю.

**Турцыя.** Намеснік генсакратара НАТА А. Вершбоў заявіў, што альянс перагледзіць патэнцыял сваіх авіябаз у рэгіёне з-за ўзрослай ваеннай актыўнасці Расіі ў Сірыі.

**Сірыя.** У выніку артылерыйскага абстрэлу баевікоў у правінцыі Латакія расійскі ваенны кантынгент страціў першых трох ваеннаслужачых, яшчэ некалькі былі параненыя.

**Украіна.** Урад краіны дамовіўся з суседняй Польшчай аб'яднаць газавыя сістэмы і пабудаваць да 2020 года сумесны магістральны газапravод для імпарту газу з ЕС.

**Італія.** На ваенных палігонах краіны, Іспаніі, Партугаліі і на моры НАТА правяла буйнейшыя за 13 гадоў стратэгічныя камандна-штабныя сухапутныя і марскія вучэнні.

**Расія.** Міністр абароны, генерал арміі С. Шайгу паведаміў, што Расія з Беларуссю за 2 гады створаць механізм узаемнай абароны і аховы граніц больш высокага ўзроўню.

**Канада.** Апазіцыйная Ліберальная партыя атрымала трыумфальную перамогу на ўсеагульных выбарах, яе лідар Джасцін Трудо стаў новым прэм'ер-міністрам краіны.

**Грузія.** Нават Крэмль незадаволіла прапанова прэзідэнта Паўднёвай Асеціі Л. Цібілава правесці рэферэндум аб уваходжанні непрызнанай псеўдарэспублікі ў склад Расіі.

**Украіна.** Большасць прадпрыемстваў і кампаній Крыма, якія патрапілі пад заходнія санкцыі, сталі фактычна банкротамі, сродкаў на іх падтрымку ў дзяржбюджэце Расіі няма.

**Казахстан.** Прэзідэнт Н. Назарбаеў папярэдзіў насельніцтва аб вельмі складанай сітуацыі на сусветных рынках, наступае сапраўдны крызіс, мацней, чым у 2007-2009 гадах.

**Расія.** Толькі за паўгода, як паведаміла газета "Новые Известия", у краіне адбылося 189 акцый пратэсту супраць пагаршэння ўзроўню жыцця, аднак дзяржаўныя СМІ гэта замоўчваюць.

**Латвія.** Глава ўрада Л. Страуюма пацвердзіла, што краіна для ўзмацнення барацьбы з нелегальнымі мігрантамі можа ўзвесці загароды на граніцы з Беларуссю.

**Японія.** З-за выяўленых праблем са шклопад'ёмнікамі сусветны аўтагігант, аўтаканцэрн "Таёта" адклікаў 6,5 мільёнаў шэрагу мадэляў аўтамабіляў выпуску апошніх гадоў.

**ПАР.** Пасля году заключэння за ненаўмыснае забойства каханкі вядомага паралімпійца А. Пісторыуса выпусцілі з турмы пад дамашні арышт з дазволам уладкавацца на працу.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Глава Асацыяцыі малога і сярэдняга бізнасу С. Балыкін папярэдзіў, што людзям трэба рыхтавацца да горшага, бо ў дзяржавы не хопіць грошай на датацыі паслуг ЖКГ.

**Брэст.** КДБ правёў па краіне 48 вобыскаў і затрымаў 13 заснавальнікаў і кіраўнікоў ЗАТ "Консул", аднаго з буйнейшых пастаўшчыкоў рознай прадукцыі для АПК Беларусі.

**Магілёў.** Па ўсёй краіне ідзе падзенне валавых аб'ёмаў прадукцыі сельскай гаспадаркі, але на Магілёўшчыне з пачатку года - найбольшы абвал, адразу на 9,7%.

**Бабруйск.** З-за кароткага замыкання падчас руху ноччу загарэўся электравоз таварнага цягніка па маршруту Жлобін-Асіповічы, затрымкі руху іншых паяздоў не было.

**Мінск.** Дырэкцыя завода шасцярон больш 60% персаналу пасля выбараў адправіла ў часовы прымусовы адпачынак, так завод прыпыняў сваю працу і ў сярэдзіне лета.

**Раубічы.** Расійскі журналіст Д. Ягораў паведаміў нібыта аб цяжарнасці славутай біятланісткі Д. Домрачавай, ёй неўзабаве споўніцца 30 гадоў, сезон яна прапусціць.

**Старыя дарогі.** У п'янай масавай бойцы прама на вуліцы жыхар вёскі Кавалічы моцна параніў нажом 22-гадовага сябру дзяцінства, бо ён не аддаў доўг у суме 80 тысяч рублёў.

**Мінск.** Намеснік міністра эканомікі Д. Крутой чэсна прызнаў, што будзе яшчэ вельмі цяжка вытворцам у бліжэйшыя 1-2 гады, бо прадоўжыцца эканамічны крызіс у Расіі.

**Баранавічы**. Пасля скандальнага фота з "Пагоняй" у навучэнцаў абласнога кадэцкага вучылішча забралі мабільныя тэлефоны, рух па тэрыторыі і допуск сюды абмежавалі.

**Мінск.** Павышэнне пенсійнага ўзросту, хоць яно і неабходнае, як заявіў старшыня прафсаюза РЭП Г. Фядыніч, не выратуе эканоміку ад крызіса, і ў 65 год пенсіі мізэрныя.

**Магілёў.** Ад кафедральнага сабора прагналі ўсіх жабракоў з прычыны быццам таго, што яны засмечвалі тэрыторыю ля царквы і прасілі грошы ў асноўным на выпіўку.

**Мінск.** Старшыня ЦВК Беларусі Л. Ярмошына прапанавала павысіць пенсійны ўзрост для жанчын, бо ў 55 гадоў ім ранавата ісці на пенсію, усё меней сродкаў на падобныя льготы.

**Брэст.** Пагранічнікі затрымалі нелегалаў з Кубы і Эрытрэі пасля некалькіх спроб нелегальна прабрацца ў ЕС праз граніцу, абодвум пагражае дэпартацыя на 5 гадоў.

**Уручча.** З-за будаўніцтва новай транспартнай развязкі ля офіса "Газпрама" ва ўсім буйным жылым мікраёне сталіцы адключылі часова ацяпленне і гарачую ваду.

**Мінск.** У разгар няпростага сезона з-за ціску генералаў з кіраўніцтва клуба і фактычнай страты права голасу ХК "Дынама" пакінуў галоўны трэнер славак Любамір Покавіч.

# З'явіўся дакумент, у якім распісана, як падатковая будзе збіраць звесткі пра лайдакоў



■ FINANCE.TUT.BY

**Савет міністраў падрыхтаваў дакумент, у якім распісана, як павінны ўзаемадзейнічаць дзяржаўныя органы ў частцы рэалізацыі дэкрэта №3 аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства. Пры гэтым, некаторыя пункты пастановы, апублікаванай на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, пазначаныя як «для службовага карыстання». Дакумент ужо ўступіў у сілу.**

У становішчы распісана, як менавіта будзе фармавацца база так званых гультаёў. Нагадаем, збіраць звесткі пра грамадзян, якія доўгі час не працавалі, павінна Міністэрства па падатках і зборах. Па сутнасці, у базе будуць звесткі пра ўсіх грамадзян краіны і асобах без грамадзянства, якія атрымалі права на пастаяннае пражыванне ў Беларусі.

Спіс звестак такі: ідэнтыфікацыйны нумар; прозвішча, імя, імя па бацьку; дата нараджэння; пол; грамадзянства; дадзеныя аб рэгістрацыі па месцы жыхарства (знаходжання); выгляд, серыя і нумар дакумента, які сведчыць асобу; час, калі грамадзянін удзельнічаў у фінансаванні дзяржвыдаткаў; сума выплачаных падаткаў, сума даходаў па грамадзянска-прававых дагаворах або дата выплаты збору ў якасці рамесніка (аказання паслуг у галіне аграэкатурызму).

Да пастановы прыкладаецца палажэнне. У ім распісаны пералік дзяржорганаў і тое, якія звесткі яны павінны перадаваць у МПЗ. Напрыклад, Мінпрацы будзе распавядаць аб атрымальніках пенсій, дапамог, беспрацоўных, ФСАН - пра грамадзян, якія працуюць і пра тых, хто заключаў грамадзянска-прававыя дагаворы, Мінкульт - пра творчых працаўнікоў, Мінадукацыі - пра студэнтаў дзённай формы навучання і гэтак далей.

Пункт 2 новай пастановы Саўміна зачынены для грамадскасці і носіць характар «для службовага карыстання».

Акрамя таго, пад грыфам ДСК праходзяць пункты, якія датычацца некаторых дзеянняў у частцы рэалізацыі норм дэкрэта №3, такіх структур як МУС, Служба бяспекі Прэзідэнта, ААЦ, Камітэт дзяржбяспекі, Следчы камітэт, МНС, Камітэт дзяржкантролю, Дзяржаўны памежны камітэт.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Мясцовае ААТ "Нафтан" з Мазырскім НПЗ перайшлі на выпуск зімовага дызельнага паліва толькі 5-га экалагічнага класу з ультранізкім утрыманнем серы.

**Віцебск.** Міліцыя вобласці сумесна з калегамі з Расіі перакрылі канал нелегальных паставак і збыту падробнай элітнай гарэлкі са Смаленскай вобласці на Віцебшчыну.

**Сянно.** Праверка Камітэта дзяржкантролю выявіла, што ў ААТ "Ульянавічы" 639 га азімых пасеялі без унясення ўгнаенняў, шмат парушэнняў было і ў суседніх раёнах.

**Глыбокае.** Упершыню ў сваёй гісторыі мясцовы МКК адправіў першую прамысловую партыю малака і згушчоных слівак у Аб'яднаныя Арабскія Эміраты.

**Талачын.** Мясцовы кансервавы завод атрымаў найбольшую ў Беларусі ўраджайнасць бульбы, кожны з пасеяных тут 900 гектараў даў па 535 цэнтнераў клубняў.

**Шаркаўшчына.** На працягу выхадных з-за наўмыснага падпалу згарэлі 148 тон сена ў сховішчах "Агратэхсэрвіса" і ў вёсцы Ваўкоўшчына суседняга Міёрскага раёна.

**Віцебск.** З чарговай спробы прадалі на аукцыёне расійскаму інвестару за 2,3 млрд. рублёў першы паверх адміністрацыйна-гаспадарчага будынка завода "Эвістар".

**Гарадок.** Расійская служба сельгаснагляду не пусціла зноў у Пскоўскую вобласць партыю з 22 тон беларускай бульбы, груз вярнулі назад пастаўшчыкам.

**Лепель.** Яшчэ 60 шчаслівых сем'яў, з якіх 15 – шматдзетныя, атрымалі ключы ад кватэр у новым доме, да канца года будзе пабудаваны ў райцэнтры і 80-кватэрны жылы дом.

**Браслаў**. Паблізу будынка ПМК-42 прадпрымальнік Васіль Яроменак пабудуе да канца года першую ў раёне аўтамыйку самаабслугоўвання з круглasутачным графікам працы.

**Паставы.** У цэмры пры ўездзе ў горад ля ваеннага шпіталю вадзіцель збіў жанчыну-веласіпедыстку і ўцёк з месца ДТЗ, не аказаў дапамогі, яго знайшлі і будуць судзіць.

**Докшыцы.** Калектыў аддзела прымусовага выканання выехаў з будынка райсуда і справіў наваселле ў адрамантаваным памяшканні з сучаснай мэбляй і камп'ютарнай тэхнікай.

**Гарадок.** Да 6 гадоў турмы пагражае 23-гадоваму хлопцу, які двойчы на падпітку ўганяў аўтамабіль і адзін раз – мапед, не маючы правоў, яму далі і 28 млн. рублёў штрафу.

**Полацк.** У мастацкай галерэі горада па пятніцах пачалі праводзіцца познія вечары адпачынку з паказам фільмаў, карцін, сустрэчамі са знакамітымі дзеячамі культуры.

**Лепель.** Пасля двух няўдалых спроб угнаць ноччу аўтамабіль двое раней судзімых маладых хлопцаў днём скралі "Жыгулі", міліцыя машыну знайшла і вярнула гаспадару.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Рашэнне па справе аб будаўніцтве царквы на беразе возера Балдук будзе вынесенае 11 лістапада

Пасяджэнні суда адбываюцца на “нейтральнай тэрыторыі” – у Глыбокім.

**Рашэнне па іску ГА “Экадом” і групы мясцовых жыхароў аб прымусе забудоўшчыкаў царквы на беразе возера Балдук да правядзення грамадскіх абмеркаванняў, што патрабуецца беларускім заканадаўствам, плануецца вынесці 11 лістапада.**

Першае пасяджэнне суда ў Глыбокім (Віцебская вобласць) прайшло 6 лістапада. Юрыст Рыгор Фёдараў, які прадстаўляў інтарэсы істца, ГА “Экадом”, пракаментаваў суду, што пры прыняцці рашэння аб будаўніцтве царквы было парушана права грамадзян на спрыяльнае асяроддзе пражывання. Другое



пасяджэнне запланаванае на 11 лістапада, на якім мусіць быць вынесенае рашэнне па сутнасці іску.

Балдук – унікальнае для Беларусі возера. Разам з навакольным ландшафтам яно было сфарміраванае 9–10 тысяч гадоў таму ў выніку руху і раставання ледніка. Гэтай восенню на беразе Балдука на мяжы з нацыянальным паркам “Нарачанскі”, прама пасярод гідралагічнага заказніка “Швакшты”, праваслаўная царква разам з мінскім бізнасменам Мікалаем Рамановічам пачалі будаўніцтва храма вобраза Божай Маці “Жываносная крыніца”. Па планах, да храму дабавіцца падворак і дзіцячы лагер больш чым на 100 месцаў.

Мясцовыя жыхары і экологі мяркуюць, што з’яўленне царквы на 100 прыхаджан разам з запланаванымі падворкам і дзіцячым лагерам у дадатак да наяўнай антрапагеннай нагрузкі прывядзе да знішчэння гэтага возера, бо яно валодае адчувальнай экасістэмай – для поўнай змены вады ў ім неабходна каля 30 гадоў.

У падтрымку грамадскіх абмеркаванняў і за перанос будаўніцтва царквы на платформе change.org выказаліся больш як 16.000 чалавек.

*Таццяна Іванова, БелаПАН.*

# Мужчыны ў Беларусі складаюць 46,5% ад агульнай колькасці насельніцтва

**На пачатак гэтага года ў Беларусі пражывалі 4 млн. 409,3 тыс. мужчын, або 46,5% ад агульнай колькасці насельніцтва. Такія звесткі апублікаваў Нацыянальны статыстычны камітэт да Сусветнага дня мужчын, які адзначаецца ў першую суботу лістапада.**

Беларусь адносіцца да той катэгорыі краін, дзе колькасць мужчынскага насельніцтва меншая за колькасць жаночага. На пачатак 2015 года на 1.000 беларускіх мужчын прыпадала 1.150 жанчын.

Сярэдні ўзрост мужчын на 1 студзеня 2015 года склаў 37,2 года. Прычым, у гарадах мужчынскае насельніцтва значна маладзейшае, чым у сельскай мясцовасці. Так, сярэдні ўзрост



гарадскіх мужчын складае 36,1 года, вяскоўцаў – 40,7. Сярэдні ўзрост мужчын на 5,2 года меншы, чым сярэдні ўзрост жанчын.

Штогод хлопчыкаў нараджаецца больш, чым дзяўчынак. Так, у 2014 годзе нарадзілася 61,3 тыс. хлопчыкаў і 57,2 тыс. дзяўчынак, г.зн. на 1.000 народжаных хлопчыкаў прыпадала ўсяго толькі 934 дзяўчынкі. Да 30-33 гадоў колькасць мужчын і жанчын становіцца практычна роўнай. Найбольшая дыспрапорцыя складваецца ў сталым узросце – да 65 гадоў мужчын становіцца ў паўтара раза менш, чым жанчын, а да 74 гадоў – больш, чым у два разы.

Мужчыны ў працаздольным узросце складаюць 66% ад агульнай колькасці мужчын рэспублікі.

У 2014 годзе ўзялі шлюб 83,9 тыс. мужчын. Мужчыны жадаюць ствараць сем’і ў 20-24 гады (26,2% ад агульнай колькасці шлюбаў) і 25-29 гадоў (32,6%). Пры гэтым упершыню стварылі сем’і 61 тыс. мужчын, з іх 610 мужчын былі старэйшыя за 50 гадоў. Сярэдні ўзрост жаніхоў пры ўступленні ў першы шлюб у 2014 годзе склаў 27,4 года, у паўторны шлюб – 40,6 года.

*Марына Носава, БелаПАН.*

# Кіроўца “БМВ” у Глыбокім збіла жанчыну на нерэгуляваным пешаходным пераходзе

**У Глыбокім на вуліцы Леніна ўвечары 4 лістапада аўтамабіль «БМВ-318» на нерэгуляваным пешаходным пераходзе збіў 55-гадовую жанчыну. Пацярпелая з траўмамі дастаўлена ў бальніцу.**

Старэйшы інспектар аддзялення агітацыі і прапаганды дзяржаўтаінспекцыі Віцебскай вобласці Вера Самуль распавяла:

– Здарэнне адбылося каля 17.55 побач дома №125 па вуліцы Леніна. Аўтамабілем кіравала 46-гадовая жыхарка Глыбокага. Яна праявіла няўважлівасць і збіла жанчыну, якая пераходзіла праезную частку дарогі па нерэгуляваным пешаходным пераходзе.

Па словах Веры Самуль, у выніку наезду пацярпелая атрымала ўдар надбрыўнай дугі, удар галаўнога мозгу і чэрапна-мазгавую траўму. Жанчыну адвезлі ў Глыбоцкую цэнтральную раённую бальніцу.

Па факце дарожна-транспартнага здарэння, у якім пацярпеў чалавек, дзяржаўтаінспекцыя праводзіць праверку.

*Сяргей Зянько.*

# “За бяспеку разам!!!”



**Для падвышэння ўзроўню бяспекі насельніцтва, актывізацыі пажарна-прафілактычнай работы, аналізу яе эфектыўнасці і адзнакі гатоўнасці тэрыторый да асенне-зімовага пажаранебяспечнага перыяду з 20 кастрычніка па 20 лістапада 2015 года ў раёне праводзіцца рэспубліканская акцыя па папярэджанні пажараў і гібелі людзей ад іх у жыллёвым фондзе.**

Так, у Глыбоцкім раёне распрацаваны і зацверджаны план правядзення дадзенай акцыі. Паводле якога, на асноўным этапе акцыі аддзеламі адукацыі, унутраных спраў, ЖКГ, энергаглядам, філіялам “Віцебскаблгаз”, беларускім добраахвотным пажарным таварыствам, работнікамі аховы здароўя і сацыяльных службаў, аддзелам па НС, мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі будзе арганізавана і праведзена шырокая работа па прывядзенні нашага раёна ў пажарабяспечны стан. Усе зацікаўленыя і ўпаўнаважаныя на тое органы будуць ажыццяўляць праверкі прыватных домаўласніцтваў, інструктаваць домаўладальнікаў і жыхароў аб неабходнасці выканання ўсіх патрабаванняў для забеспячэння бяспечнага пражывання. Такія ж інструктажы і гутаркі будуць праводзіцца і ў працоўных калектывах раёна, установах адукацыі.

*Глыбоцкі РАНС.*

# Узровень пажарнай бяспекі правераных суб’ектаў

**У кастрычніку месяцы інспекцыяй нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях праведзены планавыя праверкі ўзроўню пажарнай бяспекі суб’ектаў. За выяўленыя парушэнні правіл пажарнай бяспекі на дадзеных суб’ектах да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты іх кіраўнікі.**

Так, пры праверцы індывідуальных прадпрымальнікаў Локцевай Ж.П., Пачопка Л.І. **(крама “Арт” у г. Глыбокае)** высветлілася, што: асоба, адказная за пажарную бяспеку, не прайшла падрыхтоўку па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму; адсутнічаюць самаратавальнікі.

Дзяржаўная лесагаспадарчая ўстанова **“Дзісненскі лясгас”** – асоба, адказная за пажарную бяспеку, не прайшла падрыхтоўку па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму; будынак лясніцтва не абсталяваны спраўнай маланкаабаронай; адсутнічаюць самаратавальнікі.

**ЧСТУП “Аўтатакт АБС”** (аўтасэрвіс у г. Глыбокае, вул. М.Горкага, 46) – будынак не абсталяваны аўтаматычнай пажарнай сігналізацыяй; памяшканне міні-кацельні не адлучана супрацьпажарнымі перагародкамі; у памяшканні міні-кацельнай захоўваюцца дровы; не выраблены замер супраціву ізаляцыі правадоў і кабеляў.

**ТАА “Альтаір Плюс”** (узвядзенне даха на будынку ААТ “Белаграпрамбанк”) – асоба, якая праводзіць інструктаж аб мерах пажарнай бяспекі, не прайшла навучанне па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму; будаўнічы аб’ект не ў поўнай меры забяспечаны спраўнымі першаснымі сродкамі пажаратушэння, пажарным інвентаром; адсутнічаюць знакі пажарнай бяспекі; не выконваецца супрацьпажарны рэжым (дапушчаецца бязладнае курэнне).

Апроч таго, праводзіліся праверкі ступені выканання папярэдніх прадпісанняў органаў дзяржаўнага пажарнага нагляду, а менавіта:

**КУП(СХ)П “Яблынька”** – з раней прапанаваных 22 мерапрыемстваў было выканана толькі 8 (36%). Адміністрацыяй прадпрыемства не быў распрацаваны план выканання мерапрыемстваў, выкладзеных у папярэднім прадпісанні.

**ААТ “Верхняе”** – з раней прапанаваных 25 мерапрыемстваў было выканана толькі 14 (56 %).

**Глыбоцкі хлебазавод** – з раней прапанаваных 23 мерапрыемстваў было выканана 19 (82 %).

**ДУА “Сярэдняя школа №3** г. Глыбокае” – з раней прапанаваных 4 мерапрыемстваў было выканана толькі 1 (25 %).

*Інспекцыя нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага РАНС.*

# Чалавек, які свядома ідзе на парушэнне закона, заслугоўвае строгага пакарання



**Час няўмольна рухаецца наперад, прайшло два месяцы восені, непрыкметна наступіць зіма, можна падвесці прамежкавыя вынікі года.**

■ **А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету за 10 месяцаў бягучага года выяўлена 224 парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства, па 10 парушэннях распачатыя крымінальныя справы, вінаватыя прыцягнуты да суровай крымінальнай адказнасці, за прычыненую прыродзе шкоду парушальнікам прад'яўленыя велізарныя фінансавыя іскі, больш за 440 млн. рублёў, якія спаганяць ў поўным аб'ёме.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя перыядычна інфармуе грамадзян аб пакараннях, якія выносяцца парушальнікам прыродаахоўнага заканадаўства і вось чарговыя прыклады.

16 кастрычніка гэтага года суд Пастаўскага раёна вынес пакаранне жыхару г. Паставы Антуху Пятру Уладзіміравічу, які 6 кастрычніка 2015 года з сажалак рыбгаса «Навікі» выкраў 4 кг сажалкавага карпа, але быў затрыманы. Антух П.У. атрымаў штраф у памеры 10 базавых велічынь або 1 млн. 800 тысяч рублёў.

19 кастрычніка суд Глыбоцкага раёна разгледзеў адміністрацыйныя пратаколы ў дачыненні да двух жыхароў Шаркаўшчынскага раёна Катовіча Яўгена Віктаравіча і Капашынава Уладзіміра Віктаравіча, якія 29 верасня 2015 года пасля ўчынення правапарушэння не выканалі законныя патрабаванні службовых асоб Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету аб спыненні аўтамашыны «Ніва», спрабавалі схавацца, былі блакаваныя, уцякалі, але ў выніку ўсё роўна былі затрыманыя. Раённы суд за аказанае непадпарадкаванне супрацоўнікам міжраённай інспекцыі аштрафаваў Катовіча А.У. на 20 базавых велічынь, Капашынава В.У. на 15 базавых велічынь.

3 лістапада гэтага года суд Глыбоцкага раёна разгледзеў пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні ў дачыненні да жыхара в. Балкалы Шаркаўшчынскага раёна грамадзяніна Мяцеліца Паўла Іванавіча, які 25 кастрычніка 2015 года ажыццяўляў здабычу рыбы на возеры Картэя Шаркаўшчынскага раёна пры дапамозе сетак. Раённы суд вынес пакаранне ў выглядзе штрафу ў памеры 20 базавых велічынь (3 млн. 600 тысяч), з канфіскацыяй лодкі ПВХ, сетак і спагнання ў даход дзяржавы кошту незаконна здабытай рыбы ў памеры 360.000 рублёў.



Гэта толькі маленькая частка прыкладаў пакарання парушальнікаў, і за кожным з гэтых выпадкаў стаіць лёс чалавека, сям'і, але чалавек сам каваль свайго шчасця. Чалавек, які свядома ідзе на парушэнне закона, заслугоўвае строгага пакарання.

**Аб ўсіх фактах парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць па тэлефонах: 8-02156-2-86-70 - кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 (МТС).**

*Здымкі з сайта інспекцыі*

# У Глыбоцкім раёне дзейнічаюць 23 добраахвотныя дружыны

**Дзейнасць добраахвотных дружын рэгламентуецца Законам Рэспублікі Беларусь “Аб удзеле грамадзян у ахове правапарадку”, на падставе рашэнняў Глыбоцкага РВК праведзена перарэгістрацыя і зацверджаны пералік добраахвотных дружын раёна. Усяго створана і зарэгістравана на тэрыторыі раёна 23 добраахвотныя дружыны і адзін моладзевы атрад аховы правапарадку, агульнай колькасцю 190 чалавек.**

■ **А.І. Гігола,** *начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС*

У г. Глыбокае добраахвотныя дружыны працуюць па пятніцах, суботах, нядзелях і святочных днях з $21^{00}$ да $01^{00}$ гадзін. У сельскай мясцовасці, паводле графікаў саветаў грамадскіх пунктаў аховы правапарадку.

У асноўным, дзяжурства ДД ажыццяўляецца з участковымі інспектарамі міліцыі (у вёсцы – дыскатэкі, прафілактычныя рэйды, у горадзе – ахова грамадскага парадку ў парках, на плошчах, у піцейных установах, на дыскатэках, а таксама пры правядзенні прафілактычнага рэйду па аб'ектах аграпрамысловага комплексу).

**Асноўнымі функцыямі добраахвотнай дружыны з'яўляецца ўдзел у:**

● ахове грамадскага парадку, жыцця і здароўя грамадзян і іх уласнасці;

● дзейнасці па прафілактыцы і спыненні правапарушэнняў;

● забеспячэнні бяспекі дарожнага руху;

● ахове грамадскага парадку ў выпадках узнікнення надзвычайных сітуацый;

● забеспячэнні пажарнай бяспекі, ахове навакольнага асяроддзя;

● навучанні грамадзян асновам бяспечных паводзін у грамадскіх месцах і забеспячэння бяспекі жылля, а таксама ў навучанні прыёмам самаабароны;

● мерапрыемствах па ахове і абароне Дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь.

Членамі добраахвотнай дружыны могуць быць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія дасягнулі васямнаццацігадовага ўзросту, здольныя па сваіх дзелавых і маральных якасцях, стану здароўя ажыццяўляць дзейнасць па ўдзелу ў ахове правапарадку.

**Член добраахвотнай дружыны** пры выкананні функцый па ўдзелу ў ахове правапарадку **мае правы:**

■ патрабаваць ад грамадзян захавання правапарадку, спынення правапарушэнняў і іншых дзеянняў, якія перашкаджаюць выкананню ім функцый члена добраахвотнай дружыны;

■ ажыццяўляць дзеянні па спыненні правапарушэнняў, затрыманню і перадачы ў праваахоўныя органы асоб, якія ўчынілі правапарушэнні;

■ пры спыненні правапарушэнняў адбіраць ва ўстаноўленым парадку ў правапарушальнікаў у адсутнасць супрацоўнікаў праваахоўных органаў, органаў і падраздзяленняў па надзвычайных сітуацыях, ваеннаслужачых пагранічных войскаў Рэспублікі Беларусь прылады ўчынення правапарушэнняў ці іншыя прадметы, пакіданне якіх у правапарушальніка можа паграждаць асабістай бяспекі члена добраахвотнай дружыны або іншых асоб, з наступнай неадкладнай перадачай гэтых прадметаў супрацоўнікам праваахоўных органаў, органаў і падраздзяленняў па надзвычайных сітуацыях, ваеннаслужачым памежных войскаў Рэспублікі Беларусь;

■ уваходзіць у клубы, кінатэатры, на стадыёны, у іншыя грамадскія месцы і памяшканні са згоды ўладальніка або ўпаўнаважанай ім асобы для пераследу правапарушальнікаў, якія хаваюцца, або спынення правапарушэнняў;

■ удзельнічаць у ажыццяўленні ачаплення (блакавання) участкаў мясцовасці, пропускнога рэжыму пры дзеяннях ва ўмовах надзвычайных сітуацый, пры спыненні групавых парушэнняў правапарадку, правядзенні масавых мерапрыемстваў, мерапрыемстваў па ахове і абароне Дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь, ліквідацыі наступстваў надзвычайных сітуацый згодна з рашэннем упаўнаважаных службовых асоб рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, органаў мясцовага кіравання і самакіравання;

■ карыстацца бясплатна тэлефонамі і іншымі сродкамі сувязі, якія належаць юрыдычным асобам для сувязі з праваахоўнымі органамі, органамі і падраздзяленнямі па надзвычайных сітуацыях, пагранічнымі войскамі Рэспублікі Беларусь у выпадках, якія не церпяць адкладу;

■ выкарыстоўваць транспартныя сродкі юрыдычных асоб і грамадзян (акрамя транспартных сродкаў, якія належаць дыпламатычным, консульскім і іншым прадстаўніцтвам замежных дзяржаў, а таксама міжнародным арганізацыям, і транспартных сродкаў спецыяльнага прызначэння) для дастаўкі ў арганізацыі аховы здароўя асоб, якія пацярпелі ад няшчасных выпадкаў або правапарушэнняў і маюць патрэбу ў тэрміновай медыцынскай дапамозе;

■ ужываць да правапарушальнікаў фізічную сілу ў выпадках і парадку, прадугледжаных Законам.



# Пацярпелыя і сведкі, адгукніцеся!

■ **В.Я. Сінкавец,** *следчы Глыбоцкага раённага аддзелу Следчага камітэту*

Глыбоцкім раённым аддзелам Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь расследуецца крымінальная справа, узбуджаная па ч.3 арт.339 КК Рэспублікі Беларусь (асабліва злоснае хуліганства) у дачыненні да жыхара Полацкага раёна, які 23 кастрычніка 2015 года ў перыяд з 18 да 19 гадзін, будучы ў стане алкагольнага ап'янення і знаходзячыся паблізу прыпынку грамадскага транспарту каля д.93, 95 па вул.Леніна г.Глыбокае, спыняў транспартныя сродкі, якія рухаліся па вул. Леніна, выказваў пагрозы грамадзянам, размахваў нажом.

Пацярпелых і відавочцаў прашу звяртацца ў Глыбоцкі раённы аддзел Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь па адрасу: **г.Глыбокае, вул.Леніна, 95, каб.3 з 9 да 18 гадзін або па тэл.: 5-04-06.**

# Электрабяспека ў побыце



**Усе мы ведаем, што з электрычнасцю трэба абыходзіцца асцярожна. Аднак, у межах роднага дома, ва ўтульнай абстаноўцы, у асяроддзі звыклых рэчаў мы часам легкадумна забываемся пра бягучую па правадах небяспеку. А вось наступствы няправільнага ці неасцярожнага абыходжання з электрапрыборамі могуць быць вельмі сумнымі.**

**■ А.С. Крывёнак,**
*дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе*

Як ні дзіўна, але прычыны няшчасных выпадкаў з электрычнасцю ў побыце застаюцца практычна нязменнымі на працягу дзесяцігоддзяў – гэта парушэнне правілаў эксплуатацыі або выкарыстанне няспраўных электрапрыбораў, неасцярожнасць і няўважлівасць пры звароце з электрычнасцю, спробы самастойнай разборкі і рамонту электрапрыбораў. Здавалася б, аб гэтых прычынах ведаюць і памятаюць усе, пачынаючы з дзіцячага ўзросту, але многія упарта не прыслухоўваюцца да папярэджанняў. З пункту гледжання псіхалогіі гэта зразумела: у сваёй кватэры чалавек адчувае сябе ў бяспецы, бытавыя прыборы з’яўляюцца для яго толькі часткай камфортнай абстаноўкі, а звычка рэгулярнага карыстання імі аслабляе пачуццё асцярожнасці.



Сёння амаль у кожным доме маецца не адзін дзясятак розных электрычных прылад. Гэта асвятляльныя прыборы, тэлевізары, халадзільнікі, пральныя машыны, прасы, электрачайнікі, абагравальнікі і так далей. Давайце паглядзім, якія ж небяспекі могуць хавацца ў гэтых звыклых для нас прыборах і да чаго можа прывесці неасцярожнае абыходжанне з імі.

### Асвятляльныя прыборы

Як правіла, стацыянарныя асвятляльныя прыборы (люстры, столевыя і насценныя свяцільнікі, бра) рэдка з’яўляюцца прычынамі электрычных траўмаў ці пажару, таму для іх асноўнае правіла – не пакідаць на працяглы тэрмін уключанымі без нагляду і не размяшчаць побач гаручых прадметы, каб пазбегнуць іх узгарання. Для пераносных свяцільнікаў патэнцыйна небяспечным месцам з’яўляюцца правады: парушэнне іх ізаляцыі можа прывесці да паражэння электрычным токам, а пашкоджанне токаводнай жылы – да іскрэння і ўзгарання.

### Радыёэлектронныя прыборы

*(тэлевізійныя і радыёпрыёмнікі, прайгравальнікі, узмацняльнікі, камп’ютарная тэхніка)*

Пры карыстанні радыёэлектроннымі прыборамі неабходна строга выконваць правілы эксплуатацыі, якія напісаны ў дакументацыі да іх. Напрыклад, тэлевізары часта становяцца прычынамі пажараў з-за невыканання умоў іх эксплуатацыі: ні ў якім разе нельга закрываць вентыляцыйныя адтуліны ў корпусе прыбора, дапускаць патрапленне ўнутр корпуса вадкасцяў і металічных прадметаў, усталёўваць тэлевізар у мэблевую нішу, якая перашкаджае свабоднаму току паветра і адводу цяпла, пакідаць тэлевізар уключаным без нагляду. Ніколі не спрабуйце самастойна разбіраць тэлевізар і іншыя радыёэлектронныя прыборы – у шмат якіх з іх выкарыстоўваюцца небяспечныя для жыцця ўзроўні напружання.

### Награвальныя прыборы

*(прасы, электрычныя чайнікі, электраабагравальнікі)*

Электранагравальныя прыборы маюць вялікую спажываную магутнасць, таму нельга адначасова падключаць некалькі такіх прылад да адной разеткі: гэта можа выклікаць празмерны нагрэў правадоў, разбурэнне іх ізаляцыі, аплаўленне і ўзгаранне разеткі. Неабходна таксама сачыць, каб шнур сілкавання прыбора не трапляў на гарачы награвальны элемент, бо гэта можа выклікаць пашкоджанне ізаляцыі і кароткае замыканне. І, вядома, варта быць асабліва асцярожным, каб пазбягаць апёкаў і ўзгарання навакольных прадметаў. Пакінутыя без нагляду награвальныя электрапрыборы – адна з самых частых прычын пажараў.

### Электраінструмент

Пры выкарыстанні электраінструмента асцярожнасць работніка накіравана, у першую чаргу, на небяспеку атрымання механічных траўмаў ад частак прылады, якія рухаюцца або рэжуць. Аднак варта памятаць, што небяспека паражэння электрычным токам ад гэтага не становіцца меншай. Часцей за ўсё маюць месца розныя пашкоджанні ізаляцыі провада электраінструмента, якія вядуць да электратраўмаў. Нельга выкарыстоўваць электраінструмент на вуліцы падчас дажджу, туману, снегападу. Бываюць таксама выпадкі пашкоджання электраінструментам ад схаванай праводкі пад напружаннем, напрыклад, пры свідраванні адтулін у сценах.

**А зараз некалькі агульных рэкамендацый па бяспечным выкарыстанні электрапрыбораў у побыце.**

1. Своеасаблівым «слабым месцам» многіх электрапрыбораў з’яўляецца сеткавы шнур. З-за частых выгібаў з часам магчымы надлом або абрыў токаводнай жылы, што вядзе да іскрэння, нагрэву і, магчыма, ўзгарання ізаляцыі провада. Часцей за ўсё такое пашкоджанне ўзнікае ў месцы мацавання шнура да вілкі. Не цягніце за шнур, каб выцягнуць вілку з разеткі. Неабходна таксама сачыць за спраўнасцю ізаляцыі сеткавага шнура, так як любое дакрананне да аголенага провада можа мець сур’ёзныя наступствы. Ніколі не карыстайцеся электрапрыборамі з пашкоджанай ізаляцыяй провада.

2. Рамонт электрычных прыбораў павінен выконваць толькі кваліфікаваны спецыяліст. Зняўшы кожух электрапрыбора, вы ўжо падвяргаеце сябе смяротнай небяспецы, так як у многіх прыладах нават пасля іх адключэння ад сеткі некаторы час захоўваецца электрычны зарад на кандэн-сатарах, а пры наяўнасці ў прыборы высакавольтных элементаў схем (напрыклад, у тэлевізарах, ЭПТ-маніторах) атрымаць электрычны ўдар можна толькі наблізіўшы руку на небяспечную адлегласць да такога ўчастка схемы.

3. Вентыляцыйныя адтуліны электрапрыбораў – зона падвышанай увагі. Не дапускайце патраплення праз іх вадкасцяў або металічных прадметаў унутр прыбора. Для гэтага ніколі не стаўце на тэлевізар, манітор, прайгравальнік вазы з кветкамі, не дазваляйце дзецям кідаць штонебудзь унутр корпуса праз адтуліны, не кладзіце на паверхню электрапрыбораў дробныя металічныя рэчы (зашчэпкі, шпількі, ключы і да т.п.). У той жа час нельга чым-небудзь закрываць вентыляцыйныя адтуліны ў пазбяганне ўзгарання прыбора.

4. Ніколі не карыстайцеся электрапрыборамі ў ваннай або пад душам – вільготная скура і зазямляльная ўласцівасць металічнай ванны не пакінуць вам шчаслівага шанцу ў выпадку падзення прыбора ў ваду або наяўнасці пашкоджанняў у яго ізаляцыі. Таксама не карыстайцеся электрапрыборамі з сілкаваннем ад электрасеткі на вуліцы падчас дажджу, снегападу або туману.

5. Не пакідайце электрапрыборы ўключанымі без нагляду. Гэта тычыцца таксама і прылад, якія могуць функцыянаваць у так званым «дзяжурным рэжыме», практычна не спажываючы электраэнергіі, але застаюцца падлучанымі да сеткі для выканання некаторых сваіх функцый (тэлевізары, відэамагнітафоны, музычныя цэнтры, DVD-прайгравальнікі, кампутары і да т.п.). Паглядзіце ў інструкцыю – як правіла, не дазваляецца пакідаць прыбор у дзяжурным рэжыме больш за 1-2 сутак.

6. Запрасіце спецыялістаў для праверкі стану электраправодкі і электрычных прыбораў у вашай кватэры. Звярніце ўвагу на абавязковую наяўнасць зазямлення карпусоў электрапрыбораў. Можна таксама ўсталяваць прыладу ахоўнага адключэння (УЗО) – пакуль адзіны апарат, які абараняе чалавека ад дакранання да токаводных частак.

7. Растлумачце дзецям правілы карыстання электрапрыборамі, для маленькіх дзяцей і хатніх жывёл абмяжуйце магчымасць непажаданага кантакту з электрычнасцю: зачыніце разеткі адмысловымі заглушкамі, не пакідайце ў разетцы вілку шнура сілкавання, нават калі электрапрыбор выключаны.

Выкананне гэтых простых правілаў паслужыць гарантам бяспекі для вас і вашых блізкіх.



# Аб неабходнасці ўстаноўкі сістэм аўтаматычнага рэгулявання

**Штогод у працэсе падрыхтоўкі да ацяпляльна-зімовага перыяду (АЗП) ўзнікаюць пытанні аб неабходнасці абсталявання жылых дамоў, адміністрацыйных і вытворчых будынкаў сістэмамі аўтаматычнага рэгулявання тэмпературы сістэм ацяплення і гарачага вадазабеспячэння.**

**■ А.Ю. Рацьковіч,**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА “Энерганагляд”*

Прыняўшы гэта пад увагу, хочацца адзначыць наступнае.

Згодна патрабаванняў ТКП 458-2012, Правілы тэхнічнай эксплуатацыі цеплаўстановак і цеплавых сетак спажыўцоў п. 11.14 сістэмы ацяплення і вентыляцыі з залежнай схемай далучэння павінны быць абсталяваны аўтаматычнымі рэгулятарамі тэмпературы (далей САР). Пункт 18.10 ТКП 458-2012 абвяшчае, што вадападагравальныя ўстаноўкі таксама павінны быць абсталяваны аўтаматычнымі рэгулятарамі тэмпературы.

У Глыбокім і Глыбоцкім раёне ўсе аб’екты спажыўцоў цеплавой энергіі падлучаныя да цэнтральных цеплавых сетак па залежнай схеме далучэння.

Улічваючы вышэй прыведзеныя патрабаванні ТКП і дзейсныя схемы цеплазабеспячэння неабходна праводзіць работу па абсталяванню сістэм аўтаматычнымі рэгулятарамі тэмпературы, а таксама прывядзенне ў працоўны стан устаноўленых раней рэгулятараў.

Аб’екты, у якіх устаноўка рэгулятараў мэтазгодная ў першую чаргу, – гэта жылыя дамы, якія знаходзяцца на абслугоўванні УП ЖКГ Глыбоцкага раёна, у якіх устаноўлены вадападагравальныя ўстаноўкі для гарачага вадазабеспячэння.

Так жа разумна абсталяваць САР аб’екты, у якіх у начны час і ў выходныя і святочныя дні адсутнічае персанал (адміністрацыйныя будынкі, установы адукацыі, аб’екты культуры, крамы), што дазволіць запраграмаваць зніжэнне тэмпературы па часе сутак, што прывядзе да эканоміі цеплавой энергіі.

Прапануем спажыўцам цеплавой энергіі вырабіць разлік эканамічнай мэтазгоднасці ўстаноўкі САР, з улікам колькасці спажыванай цеплавой энергіі і тэрмінам акупнасці па методыцы Камітэта па рацыянальным выкарыстанні ПЭР. А таксама вызначыць тэхнічную магчымасць устаноўкі рэгулятараў у залежнасці ад схемы падлучэння сістэм цеплаcпажывання будынка.

Аналізуючы работу сістэм цеплаcпажывання ў ацяпляльны перыяд і плануючы падрыхтоўку да наступнага ацяпляльнага перыяду, пры неабходнасці ў план мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да АЗП уключыць устаноўку САР.

